Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 670.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Серада, 12 жніўня 1998 г. № 83 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## На радзіму да міністра

**Прэзідэнт Лукашэнка ўсё яшчэ рвецца на бітву за ўраджай.**

Як стала вядома, 13 жніўня Рыгоравіч збіраецца з візітам у шэраг калгасаў Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці: праверыць, як там жнуць і малоцяць. Пра прыезд прэзідэнта ў Паставах загаварылі яшчэ на мінулым тыдні і пачалі ўзмоцнена рыхтавацца: чысціць вуліцы, фарбаваць платы, а ў сельскія крамы павезлі тавары.

Пастаўскі раён прэзідэнт выбраў, відаць, не выпадкова, тут нарадзіўся і ў свой час працаваў цяперашні міністр сельскай гаспадаркі Іван Шакола. Пасля Паставаў турнэ Лукашэнкі плануецца завяршыць у нацыянальным парку «Браслаўскія азёры», якім кіруе прэзідэнцкі «заўхоз» Іван Ціцянкоў. Натуральна, што і ў гэтай цудоўнай курортнай зоне рыхтуюцца да прыезду Рыгоравіча.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Ахвярай урагану стала дзіця

**У выніку ўрагану, які пранёсся над Гомельскай вобласцю, пацярпеў хлопчык з вёскі Чырвоная Кветка Рэчыцкага раёна.**

З цяжкай чэрапна-мазгавой траўмай у нядзелю дзіця было дастаўлена ў бальніцу. Моцны вецер, які пакалечыў хлопчыка, дасягаў хуткасці 26 метраў у секунду.

*БелаПАН*

# Праблему мовазнаўства вырашыць суд?

*Сёння ў Вышэйшым гаспадарчым судзе будзе разглядацца справа газеты «Наша Ніва»*

Дзяржаўны камітэт па друку лічыць, што газета парушыла 6-ты артыкул закона аб друку, які патрабуе выкарыстоўваць у СМІ *«агульнапрынятыя нормы мовы»*. Такая папраўка была ўнесеная ў закон восем месяцаў таму, і ў хуткім часе Дзяржкамдрук у асобе старшыні Падгайнага выдаў «Нашай Ніве» папярэджанне за тое, што яна выкарыстоўвае дарэформенны беларускі правапіс («тарашкевіцу»).

Наступным крокам можа стаць закрыццё газеты. Разумеючы гэта, рэдакцыя «Нашай Нівы» звярнулася ў суд з мэтаю аспрэчыць папярэджанне. Рэдакцыя лічыць патрабаванне Дзяржкамдруку незаконным, паколькі ні ў законе аб друку, ні ў іншых заканадаўчых актах няма ні слова пра тое, якія менавіта нормы мовы і правапісу з'яўляюцца «агульнапрынятымі». Нават мовазнаўцы, якія ўдзельнічалі ў навуковай канферэнцыі, наладжанай у Акадэміі навук у 1992 г., не змаглі прыйсці да адзінай думкі наконт правапісу.

Міжнародная арганізацыя *Article XIX* расцэньвае «моўныя» патрабаванні Дзяржкамдруку як парушэнне Канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якой далучылася Беларусь. У артыкуле 19 гэтай Канвенцыі сказана: *«Кожны чалавек мае права на свабоднае выказванне сваёй думкі; гэтае права прадугледжвае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць любога роду інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, у вуснай, пісьмовай і друкаванай форме, пры дапамозе мастацкіх сродкаў альбо любых іншых сродкаў па ягоным выбары».*

Арганізацыя *Article XIX* лічыць, што абмежаванне, якое забараняе недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі, іншым установам ці прыватным асобам ужыванне мовы і формы мовы па іхнім выбары, з'яўляецца яўным парушэннем гэтага палажэння. *«У той час, як урады шэрагу краінаў, дзеля практычных мэтаў, вызначылі афіцыйную форму мовы для ўжывання ў дзяржаўных і афіцыйных установах, любое падобнае абмежаванне, накіраванае супраць недзяржаўнай установы, лічыцца грубым парушэннем права свабоды слова, якое знаходзіцца пад міжнароднай ахovай»*, — адзначаецца ў звароце, які арганізацыя *Article XIX* накіравала ў беларускія ўрадавыя структуры, а таксама распаўсюдзіла за мяжой.

Міжнародная арганізацыя заклікае Дзяржкамдрук адклікаць сваё папярэджанне «Нашай Ніве» і даць магчымасць газеце і яе чытачам карыстацца выбранай формай мовы. Акрамя таго, *Article XIX* заклікае беларускія ўлады прывесці закон аб друку да адпаведнасці міжнародным абавязальніцтвам Беларусі.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Кучма абышоўся без гасцей з Беларусі

**У суботу ўкраінскі прэзідэнт Леанід Кучма адзначаў свой 60-гадовы юбілей. Малодшы «славянскі брат» з Мінска павіншаваць яго не прыехаў.**

Затое адсвяткаваць з Кучмам у ягонай летняй рэзідэнцыі каля Ялты прыляцелі шмат высокіх гасцей. Былі прэзідэнты Латвіі, Малдовы, Грузіі, Азербайджана, Узбекістана і Татарстана. Кіраўніцтва Расіі прадстаўляў віцэ-прэм'ер Іван Рыбкін, а ад імя ўсяго СНД прамаўляў Барыс Беразоўскі. Быў і Віктар Чарнамырдзін, і прэзідэнты «Газпрома» і «Лукойла» Рэм Вяхіраў і Вагіт Алікпераў.

Кожны з гасцей уручыў юбіляру свае падарункі. Эдуард Шэварднадзе, напрыклад, прывёз некалькі скрыняў добрага грузінскага віна. А вось з суседняй і быццам бы братняй Беларусі ўкраінскі прэзідэнт не дачакаўся ні падарункаў, ні гасцей.

Аляксандр Лукашэнка, хоць і быў запрошаны на юбілей Кучмы, абмежаваўся толькі афіцыйным лістом-віншаваннем. Чаму ж галоўны беларускі інтэгратар не паехаў на дзень нараджэння да прэзідэнта-суседа? У прэсслужбе адміністрацыі Лукашэнкі карэспандэнту НАВІНАЎ патлумачылі, што цяпер прэзідэнт заняты вельмі важнай і адказнай справай — ён сочыць за ходам уборкі ўраджаю.

Аднак прыгадаем: калі трэба, Лукашэнка можа не адзін дзень ездзіць па расійскіх рэгіёнах, сустракацца з тамтэйшымі губернатарамі, казакамі, рабочымі — і неадкладныя справы дома тады як быццам знікаюць. Лукашэнка ахвотна ездзіць толькі туды, дзе хваляць яго і пляскаюць у ладкі яму. Ад публікі, якая сабралася ў Кучмы, Рыгоравіч гэтага яўна не дачакаўся б.

А можа, рэч у тым, што ў гэтай кампаніі ён, 44-гадовы, быў бы самы малады?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Сляды Чарнобыля па ўсёй Еўропе

**На еўрапейскім кантыненце няма ніводнай краіны, якую б не закрануў Чарнобыль.**

Пра гэта сведчыць фундаментальная навуковая праца — Атлас радыеактыўнага забруджвання Еўропы цэзіем-137. Ён рыхтаваўся тры гады спецыялістамі з Беларусі, Украіны, Расіі і шэрагу заходніх краінаў. Фінансаваўся праект Еўрапейскім Саюзам. Атлас быў выдадзены ў Лондане (на англійскай і рускай мовах) і змяшчае ў сабе мноства картаграфічных ілюстрацыяў, на якіх адлюстраванае постчарнобыльскае забруджванне Еўропы.

Беларускія спецыялісты, якія прымалі ўдзел у стварэнні Атласа, правялі ў Мінску прэс-канферэнцыю і пазнаёмілі журналістаў з вынікамі супольнай працы. З матэрыялаў бачна, што Чарнобыль «наслядзіў» па ўсёй Еўропе, закрануўшы ўсе краіны кантынента — але ў рознай ступені. У прыватнасці, 68 працэнтаў цэзіевага забруджвання прыпадае на Беларусь, Украіну і Расію, 31 працэнт — на астатнія еўрапейскія краіны, 1 працэнт — «не размеркаваны».



Удзельнікі Чарнобыльскага шляху нясуць плакат: *«Наша дачушка Крысціна памерла ад рака. У краіне няма прафесійнай медыцыны»*.

Як вынікае з Атласа, у Заходняй Еўропе самае высокае забруджванне (ад 1 да 5 кюры на км²) зафіксаванае ў Альпах. «Альпійская пляма» (так яе называюць спецыялісты) закранае тэрыторыі Італіі, Германіі, Аўстрыі і знаходзіцца ад Чарнобыля на адлегласці больш за 1,5 тысячы кіламетраў.

Каштуе Атлас дорага — 100 ЭКЮ (110 долараў) за адзін экземпляр. Праўда, Беларусь бясплатна атрымала ад ЕС 78 асобнікаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



*На здымку: саркафаг над чацвёртым рэактарам Чарнобыльскай АЭС, які выбухнуў 26 красавіка 1986 года.*

*Да «Дзяцей Чарнобыля» завіталі новыя кантралёры*

## Гуманітарная дапамога скарацілася на 80 працэнтаў

**Беларускі фонд «Дзецям Чарнобыля» накіраваў сёлета каля васьмі з паловай тысяч дзяцей на аздараўленне ў 16 краінаў свету. Але гэта амаль у 2 разы меней, чым было ў папярэднія гады.**

Па словах старшыні фонду Генадзя Грушавога, праблемы стварае наша дзяржава, якая праводзіць палітыку, накіраваную на абмежаванне масавых кантактаў беларускіх грамадзянаў з замежнымі. *«Аздараўленчая праграма ідзе вельмі цяжка і застаецца пад пагрозай закрыцця»*, — гаворыць Грушавы. З мінулага года фонд практычна пазбаўлены магчымасці прымаць гуманітарныя канвоі. Дарэчы, дазвол на размеркаванне «гуманітаркі» па-ранейшаму дае асабіста прэзідэнт Лукашэнка. «Бацькоўскі» клопат прывёў да таго, што колькасць гуманітарнай дапамогі ў Беларусь скарацілася на 80 працэнтаў. Чыноўнікі плануюць забараніць і аздараўленчыя праграмы пасля заканчэння школьных канікулаў.

Прэзідэнцкая адміністрацыя патрабуе, каб «Дзеці Чарнобыля» купілі ў яе ліцэнзію на дабрачынную дзейнасць, а менавіта *«на атрыманне і размеркаванне гуманітарнай дапамогі і арганізацыю аздараўлення дзяцей за мяжой»*. Кошт гэтай ліцэнзіі вызначаны ў памеры 5 мінімальных заробкаў. Калі «Дзеці Чарнобыля» не заплацяць лукашэнкаўскай адміністрацыі, то з 1 верасня ўлады спыняць дзейнасць фонду. Генадзь Грушавы назваў гэта дзікунствам і падкрэсліў, што фонд не збіраецца плаціць лукашэнкаўскай камандзе.

Нядаўна пракуратура Цэнтральнага раёна Мінска спыніла крымінальную справу супраць кіраўнікоў гэтай дабрачыннай арганізацыі *«з-за адсутнасці складу злачынства»*. Але да «Дзяцей Чарнобыля» завіталі новыя кантралёры, на гэты раз з міністэрства юстыцыі. Іх зацікавіла *«статутная дзейнасць фонду»*. Генадзь Грушавы лічыць, што супраць «Дзяцей Чарнобыля» пачалася новая хваля ўціску. Па яго словах, фонд «Дзеці Чарнобыля» не адмовіцца ад сваёй грамадзянскай пазіцыі, а ўвосень збіраецца распачаць моцную кампанію супраць будаўніцтва АЭС у Беларусі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Віктар Лукашэнка пойдзе служыць у войска?

**Прэзідэнт Лукашэнка абвергнуў чуткі аб тым, нібыта ягоны старэйшы сын Віктар будзе накіраваны на дыпламатычную службу ў Швейцарыю.**

Па словах Рыгоравіча, Віктар Лукашэнка праз тры месяцы пойдзе служыць у войска. Сёлета ён закончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ і мае вайсковае званне лейтэнанта. Служыць ён будзе хутчэй за ўсё ў памежных войсках. *«Таму што сярод нашыхродзічаў існуе такая традыцыя»*, — зазначыў прэзідэнт Лукашэнка. А пакуль, да пачатку вайсковай службы, Віктар Лукашэнка будзе працаваць у міністэрстве замежных справаў — такую інфармацыю паведаміла БелТА.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

КАНФЛІКТ

# Ліцэй зачынены. Усе пайшлі на пікет

**У панядзелак, 17 жніўня, вучні Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа зноў выходзяць на пікет у Міхайлаўскі сквер сталіцы. На гэты раз — у падтрымку дырэктара ліцэя Уладзіміра Коласа.**

Здаецца, пікетаванне становіцца традыцыйным адпачынкам ліцэістаў, а таксама іхніх бацькоў — нават падчас летніх канікулаў. Патрыёты сваёй навучальнай установы, дзеці і дарослыя ішлі ў пікеты, калі будынак ліцэя адбірала ўпраўленне справамі адміністрацыі прэзідэнта. Потым — сёлета — калі з'явілася ідэя аб'ядпаць гуманітарны ліцэй з ліцэем пры БДУ. Цяпер вучні ладзяць пікет у абарону заснавальніка і нязменнага дырэктара ліцэя Уладзіміра Коласа.

У міністэрстве адукацыі з'явілася чарговая ідэя: зняць Уладзіміра Коласа з пасады дырэктара і паставіць на гэтае месца новага чалавека. Маўляў, у сувязі з павышэннем статуса навучальнай установы (Нацыянальны, лічаць у міністэрстве, гучыць больш салідна, чым проста Беларускі) фігура Уладзіміра Коласа «недастаткова маштабная». Пакуль што найбольш магчымая кандыдатура — прарэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка 61-гадовы Мікалай Плескацэвіч.

Сам Уладзімір Колас хоць і не лічыць сабе ідэальным кіраўніком, мяккa называе міністэрскую ініцыятыву «не зусім правільнай» — даваць больш адназначныя рэзкія ацэнкі, на ягоную думку, некарэктна, бо ён з'яўляецца дзяржаўным служачым, падначаленым міністэрству адукацыі. Па словах У.Коласа, у ліцэі падабраўся добры педагагічны калектыў, вучні задаволены сваімі выкладчыкамі.

Бацькі пераканаяны, што калі звольняць Коласа, то за ім з ліцэя пойдуць (або будуць вымушаныя пайсці) і педагогі. Гэта трывожыць як бацькоў, так і ліцэістаў, таму яны выступаюць супраць новага дырэктара ў прынцыпе — хто б ён ні быў. Да таго ж праз тры тыдні — пачатак новага навучальнага года, і кардынныя змены ў кіраўніцтве ліцэя балюча адаб'юцца на навучальным працэсе, мяркуюць бацькі.

Учора дэлегацыя бацькоў ліцэістаў сустракалася з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным і першым намеснікам міністра адукацыі Генадзем Дылянам. Бацькі адстойвалі «свайго» дырэктара, а Генадзь Дылян паведаміў, што сёння, у сераду, з'явіцца канчатковы загад аб звальненні Уладзіміра Коласа з пасады дырэктара ліцэя.

Нагадаем, што Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа быў створаны ў 1990 годзе. Да апошняга часу ён называўся Беларускі гуманітарны ліцэй — змена шыльды адбылася менш за месяц таму па ініцыятыве міністэрства адукацыі, якое, па звестках, узялося развіваць ідэю У.Замяталіна. У ліцэі вучацца каля 200 школьнікаў 8—11 класаў. Усё выкладанне ў ліцэі вядзецца на беларускай мове. Некаторыя бацькі лічаць, што афіцыйныя ўлады чыняюць столькі перашкодаў гуманітарнаму ліцэю менавіта з прычыны ягонай беларускасці.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




*Летась, калі ў ліцэя спрабавалі забраць будынак, у пікетах на Цэнтральнай (Кастрычніцкай) плошчы дружна стаялі і сядзелі бацькі і дзеці. (Фота з архіва СВАБОДЫ).*

## Расіяне лётаюць, беларусы – страляюць

**Напрыканцы гэтага тыдня два эшалоны з тэхнікай і ваеннаслужачымі войскаў супрацьпаветранай абароны адпраўяцца на палігон «Ашулук» у Астраханскай вобласці Расіі, дзе ў канцы жніўня — пачатку верасня пройдуць міжнародныя вучэнні.**

Як паведамляе БелаПАН, плануецца, што ў гэтых манеўрах будуць удзельнічаць каля 800 вайскоўцаў Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі. Узброеныя сілы нашай краіны будуць прадстаўленыя падраздзяленнямі зенітна-ракетных і радыётэхнічных войскаў, а з боку Расіі і Казахстана будзе ўдзельнічаць авіяцыя. Інакш кажучы, яны будуць лётаць, беларусы — страляць, адбіваць напады з паветра.

Беларускія вайскоўцы ўжо ў трэці раз за тры гады наведаюць расійскі палігон. Ажыццяўленне маршу ў Астраханскую вобласць, баявыя стрэльбы і вяртанне ў месцы пастаяннай дыслакацыі стануць для іх этапамі комплекснага вучэння.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Кавалачак Белавежскай пушчы ў Казахстане

**У казахстанскім цэнтры дзелавога супрацоўніцтва «Атакент» з 17 па 20 верасня пройдзе выстава прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь «Белавежскі кірмаш».**

Прамысловасць Беларусі, паведамляе БелаПАН, будзе прадстаўленая вельмі шырокім спектрам вырабаў — ад керамічнай пліткі і сантэхнікі завода «Керамін» да цяжкіх самазвалаў ВА «БелАЗ»; усяго ж свае тавары ў Казахстан павязуць 78 прадпрыемстваў.

**Алена СУРКО**

## Канкурэнт Беларускай чыгункі

**Літоўская чыгунка гатовая ў бліжэйшы час запусціць цягнік па маршруце Клайпеда — Мінск — Масква, прычым літоўцы абяцаюць, што якасць сервісу будзе вышэйшая, чым у беларускіх цягніках.**

Праўда, аматарам падарожжаў па чыгунцы радавацца пакуль рана. Як паведамляе агенцтва *ELTA*, гэта будзе грузавы састаў, прызначаны для перавозкі грузавых кантэйнераў. Ён злучыць марскі порт Клайпеда з Мінскам і Масквой, першапачаткова плануюцца рэйсы раз у тыдзень, пасля — часцей.

Дарэчы, планы ў літоўскіх чыгуначнікаў сапраўды маштабныя: транзітам праз тэрыторыю нашай краіны яны збіраюцца ў перспектыве стала дастаўляць грузавыя кантэйнеры не толькі на Украіну, але нават і ў Японію.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## На поле выйшлі жнеі з сярпамі

**Каля 800 чалавек штодзённа выходзяць з косамі і сярпамі на затопленыя палі Столінскага раёна.**

Рака Гарынь разлілася, даждэы ідуць пастаянна, і ў выніку пад вадой апынуліся каля 5 тысяч гектараў — пятая частка засеянага. Многія гаспадаркі, перадае БелаПАН, сёння вымушаныя звярнуцца да тых метадаў уборкі, якімі карысталіся нашыя дзяды. Адна толькі розніца: зжатае малоціцца не ўручную, а падвозіцца да камбайнаў, якія стаяць на ўзвышшах і абмалочваюць зерне.

У гэтым годзе сярэдні ўраджай збожжавых на Століншчыне складае 26,6 цэнтнера з гектара, у мінулыя ж гады гаспадаркі раёна збіралі больш за 30 цэнтнераў на круг. У асабліва цяжкім становішчы апынуліся калгасы «Рувельскі», «Сцяг Перамогі» і імя Чапаева.

Акрамя Столінскага, моцна пацярпелі палі Ганцавіцкага, Кобрынскага, Пружанскага, Лунінецкага раёнаў. Ужо сёння ясна, што сваімі сіламі з наступствамі стыхіі многія гаспадаркі не справяцца і ім патрэбна дапамога збоку.

Але вось ж праблема: ну, прыгоняць пад прымусам з горада рабочых, настаўнікаў, студэнтаў... Хто ж з іх сёння жаць умее?

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## У Літву прабрацца лягчэй

**У Воранаўскім раёне ўночы міліцыя затрымала аўтобус з Мінска, які кіраваўся ў бок літоўскай мяжы. Сярод пасажыраў быў 41 нелегал без дакументаў: афганцы, пакістанцы і іншыя.**

Мяжа з Літвой слаба ўмацаваная і па-ранейшаму застаецца вельмі прывабнай для «афраазіятаў», што кіруюцца ў Еўропу. У Беларусь яны трапляюць праз мяжу з Расіяй, якая зусім не ахоўваецца. Былая савецкая мяжа з Польшчай умацавана значна лепш, таму за паўгода на ёй было затрымана ўсяго 11 парушальнікаў.

**Віктар ІВАНОЎ**

## Аўкцыён: цэны мінімальныя

**У Ваўкавыску будзе праводзіцца эксперымент у малой прыватызацыі: гарадскую маёмасць будуць прадаваць па сістэме так званых галандскіх аўкцыёнаў.**

Гэта значыць, што каб прывабіць пакупнікоў на такі нехадавы «тавар», пачатковая цана аб'ектаў падчас таргоў будзе не расці, а зніжацца. У выніку аб'ект можа быць прададзены нават за адну пятую частку ад пачатковага кошту.

Карацей, заплаціць, калі пашанцуе, можна будзе толькі 20% сумы. А рызыка ў пакупнікоў адна: раптам нехта крыкне «Купляю!» раней за цябе?

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## У Дзятлаве паставілі крыж

**У Дзятлаве адбыўся адмысловы хрэсны ход: працэсія праваслаўных вернікаў і святароў дайшла да ўскраіны мястэчка, і на ўездзе з боку Слоніма паставілі крыж.**

Яго асвяцілі і правялі малебен. Сюды ж прыбыла лампада з агнём ад дамавіны Гасподняй з Ерусаліма. З лампадай хрэсны ход вярнуўся ў царкву, дзе ўрачыстую літургію адслужыў епіскап Гурый.

**Васіль ПЯТРОВІЧ**

## Пленэр у Навагрудку

**У Навагрудку адбыўся міжнародны пленэр з нагоды 200-х угодкаў Адама Міцкевіча.**

У ім удзельнічалі 34 мастакі з Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны. Усім разам ім удалося стварыць на радзіме Міцкевіча 140 работ у розных тэхніках. З твораў складзена выстава. Па ўмовах пленэру, як гэта звычайна робіцца, кожны з удзельнікаў падорыць гораду адну са сваіх прац.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Чэшскім студэнтам пачысцілі чамаданы

**Чэшскія студэнты Любаш Вэсэлі і Міхал Чэрні былі затрыманыя ўчора на памежным пераходзе Тамашоўка беларуска-украінскай мяжы ў Брэсцкай вобласці.**

Мытнікі канфіскавалі ў хлопцаў, якія ехалі рэйсавым аўтобусам з Брэста ў Львоў, праваабарончыя бюлетэні Хартыі'97 і камітэта Вясна'96, нумары газетаў НАВІНЫ і «Пагоня», а таксама фотаматэрыялы аб парушэнні ў Беларусі правоў чалавека. Маладых грамадзянаў Чэхіі, якія прыязджалі ў Беларусь па запрашэнні Хартыі'97, трымалі на мяжы ажно 8 гадзінаў. Мытнікі дапытваліся: адкуль яны ўзялі і навошта вывозяць з Беларусі матэрыялы, якія «кампраметуюць прэзідэнта» і «шкодзяць іміджу Беларусі за мяжой»? Прычым на гэтыя ўвогуле бязглуздыя пытанні ад іншаземных гасцей патрабавалі пісьмовыя тлумачэнні.

Усе патрабаванні студэнтаў дазволіць ім звязацца з амбасадай Чэхіі ў Мінску і прадаставіць перакладчыка беларускія мытнікі праігнаравалі. І некалькі разоў яны старанна перапрэслі багаж хлопцаў і, канфіскаваўшы «крамолу», нарэшце адпусцілі. Хлопцам нічога не заставалася, як вярнуцца ў Брэст, дзе яны расказалі аб сваіх прыгодах мясцовым журналістам, пасля чаго выехалі ў накірунку Прагі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Прагулкі па Мінску каштуюць дорага

*Учора дэпутату Лябедзьку прысудзілі новы штраф*

Анатолю Лябедзьку інкрымінаваўся ўдзел у мерапрыемстве, якое адбывалася... больш за год таму — 14 сакавіка 1997 года. У той дзень, нагадаем, мінская моладзь пад лозунгам «Беларусь — у Еўропу!» сабралася наведаць шэраг замежных амбасадаў. Візіт у амбасады, хаця і не адбыўся, быў прыраўняны да палітычнай акцыі.

Як сказаў на судзе А.Лябедзька, у акцыі ён не ўдзельнічаў, а на плошчы Свабоды, дзе акцыя адбывалася, у яго проста была прызначаная сустрэча з калегамі.

Лябедзьку судзяць па гэтай справе ажно ў трэці раз. Два папярэднія прысуды паслядоўна адмяняліся гарадскім і Вярхоўным судамі, і справа зноў накіроўвалася ў Цэнтральны райсуд сталіцы. У адказе старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы зазначана, што паказанні Лябедзькі наконт ягонага няўдзелу ў мітынгу не абвергнутыя.

Аднак учора вядомы па палітычных працэсах суддзя Анатоль Барысёнак урэшце палічыў іх абвергнутымі. Свой абвінаваўчы вердыкт ён вынес нягледзячы на тое, што трое з чатырох сведкаў-міліцыянтаў не пацвердзілі ўдзелу Лябедзькі ў акцыі. Таксама яны адмовіліся кваліфікаваць мерапрыемства як мітынг ці нешта яшчэ. Не іхні, маўляў, гэта абавязак: сабраліся людзі — ды і ўсё, а што з гэтымі людзьмі рабіць — вырашае начальства.

Такім чынам, сваё рашэнне суддзя Барысёнак грунтаваў на падставе сведчання толькі аднаго міліцыянта. Акрамя таго, у справе фігураваў міліцэйскі пратакол, пад якім, па сведчанні Лябедзькі, ягоны подпіс быў падроблены. Але хадайніцтва аб графічнай экспертызе Барысёнак адхіліў.



Сума штрафу — 5 мільёнаў рублёў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Савонюк утверждает, что он не виновен

*Суд будет разбираться*

**Британский пенсионер, выходец из Беларуси Энтони (Антон) Савонюк отказался признать себя виновным в уничтожении мирных жителей на территории бывшего СССР в годы Второй мировой войны.**

77-летний Савонюк, арестованный в Лондоне на основании британского закона о военных преступлениях, предстал в ходе предварительного слушания перед центральным уголовным судом в Лондоне. Он обвиняется в убийстве как минимум двух мужчин и двух женщин в Беларуси зимой 1942 года, однако по всем четырем пунктам предъявленного обвинения ответил «не виновен».

Савонюк перебрался в Великобританию в 1946 году, получил здесь британское гражданство и работал на железной дороге. Предполагается, что предварительное слушание его дела будет продолжено в ноябре, а окончательный суд состоится в феврале будущего года. Савонюк был отпущен под залог без права выезда за границу.

Адвокат Савонюка Уильям Клегг заявил, однако, что в связи с болезнью сердца у подзащитного он, возможно, будет добиваться отмены суда. Савонюк — второй выходец из бывшего СССР, который привлекается в Великобритании к судебной ответственности по подозрению в военных преступлениях в годы Второй мировой войны. Ранее аналогичные обвинения были выдвинуты против Симона Серафимовича, однако в январе 1997 года суд над ним был признан невозможным по состоянию здоровья. В прошлом году Серафимович умер.

# Молдова – страна бедняков

**Исследование, проведенное экспертами Всемирного банка, выявило, что по уровню жизни Молдова является одной из самых бедных в Европе.**

В прошлом году внутренний валовый продукт в расчете на одного жителя упал здесь до 540 долларов (еще в 1993 г. эта цифра достигала 790 долларов). 84% жителей республики оказались сегодня за чертой бедности. Критерий — эти люди могут тратить в день не более 2 долларов.

Постоянный представитель Всемирного банка в Молдавии Джеймс Паркс заявил, что в ближайшие годы Молдавии будут предоставлены кредиты — на льготных условиях, применимых к бедным странам. Уже в 1999 году в фонд социальных инвестиций республики поступит 15 млн. долларов для нужд социального страхования и на развитие фермерства. В 2000 году будет выделено 65 млн. долларов для реформы органов управления, энергетики и одной из главных отраслей республики — виноградарства.

А администрация президента Клинтона включила недавно Молдову в перечень стран, которые могут рассчитывать на бесплатное получение продовольственной помощи из Соединенных Штатов. Кроме Молдовы, в этом списке значатся также Афганистан, Албания, Босния и Македония; Бангладеш, Эфиопия и Эритрея, Никарагуа и некоторые страны Африки, расположенные южнее Сахары.

*USIA*

# К принцу датскому – на выучку

**Первая группа военнослужащих Балтийского миротворческого батальона (Балтбат) вылетела в Копенгаген для прохождения подготовки в полку личной охраны крон-принца Дании.**

В составе группы 98 солдат и офицеров из Латвии, Литвы и Эстонии. 21 августа к ним присоединится вторая группа из 102 человек. До 20 октября они будут отрабатывать навыки совместных действий с бронетанковой ротой датского полка, получат навыки ведения боев в городских условиях, а также саперной подготовки. По завершении учебы представители Балтии отправятся с миротворческой миссией в Боснию, где будут нести службу в зоне ответственности стран Северной Европы и Польши.

*BNS-ETA*

# Шаг навстречу Японии

**Жители Южных Курил «с жаром и настойчивостью» изучают японский язык и хотят, чтобы такие курсы создали во всех школах.**

Об этом заявила преподавательница Тиэ Судзуки, которую официальный Токио в июле командировал на остров Кунашир для работы с местным населением. Она стала первым японским педагогом, направленным на Южные Курилы после окончания Второй мировой войны. 28-летняя Тиэ Судзуки начала преподавать на Кунашире японский язык детям и взрослым.

Всего у Судзуки более семидесяти учеников, включая учителей школы. По словам преподавательницы, она сама очень довольна пребыванием на Кунашире, а жители готовы продолжать изучение японского языка. В конце лета подобная миссия будет организована и на южнокурильский остров Шикотан.

Деятельность японских педагогов финансируется правительством Японии, которое недавно приняло решение направлять на Южные Курилы специалистов. Подобные визиты начались в 1992 году в соответствии с соглашением, одобренным еще Михаилом Горбачевым. С тех пор в безвизовых обменах приняли участие уже более пяти тысяч человек. С японской стороны в таких поездках участвуют бывшие жители Южных Курил, активисты движения за их возвращение под суверенитет Токио, пресса и т.п. С российской стороны на безвизовые визиты в соседнюю страну может рассчитывать только население этих островов.

Последние опросы общественного мнения на Южных Курилах показали, что более половины жителей в возрасте 18-45 лет не исключают возможности, что эти острова в перспективе станут частью Японии.

**Василий ГОЛОВИН,**
*Токио*

*Россия*

# Ястреб женский

## Он больше, чем пресс-секретарь

**Пожалуй, самое интересное в Сергее Ястржембском — это то, что о нем, по большому счету, ничего неизвестно. Но говорят, что пресс-секретарь Ельцина участвует чуть ли не в каждой кремлевской интриге. Во всяком случае пресс-секретарскую должность он давно уже перерос.**

**В августе исполняется два года, как дипломат Сергей Ястржембский состоит пресс-секретарем при президенте Борисе Ельцине. За это время он превратился в одного из тех, про кого говорят: «Он принимает решения». При этом политическое будущее Ястржембского весьма туманно. О том, что собой представляет президентский пресс-секретарь и что ждет его в дальнейшем, рассказывают информированные люди, пожелавшие остаться неназванными.**



### «Грушный» набор

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Когда в 1996 году сняли руководителя президентской охраны Александра Коржакова, Анатолий Чубайс решил посадить на очень влиятельное место пресс-секретаря президента своего человека. Он и вытащил Ястржембского из Словакии, где тот работал послом. Так что первоначально Ястржембский был человеком Чубайса, но потом от него дистанцировался и прибился к нынешнему руководителю президентской администрации Валентину Юмашеву».

**Собеседник в Госдуме РФ**: «Если взять треугольник: правительство — администрация Ельцина — финансовые круги, то Ястржембский — одна из связок внутри этого треугольника. Вдобавок я не исключаю, что Ястржембский имеет отношение к бывшему КГБ. По непроверенным данным, в МГИМО Ястржембский поступал по «грушному» набору, так как его отец был якобы сотрудником ГРУ — Главного разведывательного управления Генштаба».

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Самое главное в Ястржембском — что о нем, по большому счету, ничего неизвестно».

### Часть коллективного Коржакова

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Когда был снят Коржаков, его многообразные функции при президенте были поделены. На сегодняшний день «коллективный Коржаков» — это дочь Ельцина и его советник Татьяна Дьяченко, руководитель президентской администрации Валентин Юмашев и Сергей Ястржембский. Кстати, при монтаже видеосъемок президента решающее слово принадлежит не Ястржембскому, а Татьяне.

Но Ястржембский прихватил еще и имиджмейкерские функции, поделив их с Татьяной, а также международные дела. Кроме того, если его предшественник Сергей Медведев был неким щупальцем Коржакова, то Ястржембский стал самостоятельной персоной и строит пресс-политику Ельцина во многом самостоятельно. А так как это очень важно (без публичных выступлений президента сделать ничего нельзя), то, естественно, он вошел в семью. Прямой доступ Ястржембского «к телу» и обеспечивает его влияние».



**Собеседник в администрации президента РФ**: «Он участвует практически в каждой интриге, но очень осторожен».

**Собеседник в МИД РФ**: «Но о снятии Виктора Черномырдина Ястржембский не знал. Он там не настолько доверенный человек».

**Собеседник в правительстве РФ**: «Об отставке Черномырдина в Кремле загодя знали только Валентин Юмашев и Татьяна Дьяченко, и вообще Ястржембский не так близок к кухне, как он пытается это представить. Он человек второго-третьего круга, ему ставят задачу, и он ее выполняет».

**Источник в администрации президента РФ**: «Сегодня Ястржембский из «второго круга» выходит в «первый». Он принимает решения и в среде руководителей администрации, не считая, конечно, Юмашева и Татьяны Дьяченко».

**Собеседник в правительстве РФ**: «Но если будет интрига, например, по замене Ястржембским министра иностранных дел Евгения Примакова, то это будет не его интрига — он просто выполнит роль исполнителя. Сам он пока не способен так глубоко интриговать».

### ИноСтранные дела

**Собеседник в МИД РФ**: «Ястржембский не только пресс-секретарь президента, но и заместитель главы администрации, курирующий международные проблемы. Все бумаги, которые касаются международных дел, выходят на него».

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Ходят слухи, что Ястржембский хочет занять место Примакова. Фактически он уже как бы «второй министр иностранных дел»: его роль в подготовке визитов президента огромна. Вообще, когда идут международные визиты Ельцина, Ястржембский, конечно, подминает МИД. Все, что связано с программами визитов, с подписанием документов, с постановкой задач, решает Ястржембский. Если Ястржембский говорит, что должны быть подписаны такие-то и такие-то соглашения, жалкие потуги МИДа: мол, это еще рано — роли уже не играют. В чем еще его сила и огромное влияние — именно он определяет, кто будет сопровождать президента в той или иной поездке».

**Владимир Жириновский**: «Ястржембского готовят на смену Примакову. Сейчас он готовит себя к этой должности — фильтрует для президента то, что Ельцину нежелательно знать из оценок деятельности за рубежом самого Ястржембского, то, что МИД подает. Он входит в свою будущую роль министра иностранных дел. И когда Примаков совсем занеможет, поставят его».

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Не думаю, что именно сейчас Ястржембский стремится стать министром иностранных дел. Он достаточно умный человек для того, чтобы не взять этот портфель, если даже предложат. Потому что для него это понижение: у него не будет такого влияния, какое есть при президенте».

### «Ястреб женский»

**Собеседник в администрации президента РФ**: «Деловые качества Ястржембского соизмеримы с качествами Чубайса, хотя и без чубайсовской жесткости. Например, если смотреть на его деятельность во время зарубежных визитов президента, сразу бросается в глаза огромная подготовительная работа. Комплект документов, материалов, возможных версий огромен — если что надо, сразу же рука Ястржембского выдает необходимую бумагу».

**Собеседник в администрации президента РФ**: «У него красивая, умная, современная, гостеприимная жена, и они очень хорошо дополняют друг друга. Вдвоем они составляют очень эффектную пару. А в Кремле Ястржембского прозвали «ястреб женский» из-за слабости к нему женского пола. Он обладает достаточно эффектной внешностью и определенной категории одиноких женщин от 35 до 45 лет очень нравится. И не исключено, что частично популярность президента связана с мужским обаянием его пресс-секретаря».

Так кто же такой Сергей Ястржембский? И что ему «светит» в жизни? Пресс-секретарство при президенте не вечно, потому что не вечен сам президент. Пост министра иностранных дел с почти гарантированной отставкой после окончания ельцинского президентства — не слишком радужная перспектива. Прочная дипломатическая карьера на посольском уровне тоже не факт для человека из команды Ельцина: опять же впереди 2000 год и возможная смена власти.

Но, по мнению одного московского психолога, к которому «Профиль» обратился за консультацией, Сергей Ястржембский вообще не из тех людей, которые ставят перед собой четкие карьерные цели. Для таких, как он, главное — благополучие вообще, а ступени карьеры лишь механизмы приобретения и закрепления психологического, социального и бытового комфорта.

**Собеседник в МИД РФ**: «Ястржембский, конечно, перерос должность пресс-секретаря. Но на данный момент его пресс-секретарство вроде гарантии при любом развитии событий. Например, не попав впоследствии на дипломатическую работу, он может написать книгу о своей работе с Борисом Ельциным. Накопив массу информации, он может потом «упаковать» ее в бизнес или еще куда-то. В любом случае Ястржембский понимает, что должен готовить себе площадку. А готовить ее можно, лишь каждодневно вращаясь вокруг Ельцина. Именно пресс-секретарство дает ему возможность вмешиваться во все дела с пользой для себя и ни за что не отвечать».

*© «Профиль», 1998*

ЗДОРОВЬЕ

# Дары лета, которых следует опасаться


*Виноград — сравнительно безопасный фрукт: от нитратов он лучше не растет. Зато его нужно тщательно отмывать от различных ядохимикатов.*

**О** нитратах и нитритах (речь идет о нитратах минеральных удобрений, которые в организме человека превращаются в канцерогенные и ядовитые нитриты) не так давно писали и говорили много. Сейчас тема слегка подзабылась и перестала быть модной. Но проблема осталась и стала еще жестче с потоком на наши прилавки овощей и фруктов со всех концов света.

## Будь осторожен

Всегда ли мы догадываемся, из чего состоит аппетитный голландский баклажан в разгаре января? Или первая причудская клубника? Или вовсю продающиеся сейчас на наших рынках «астраханские» арбузы? Как родившаяся в Астрахани свидетельствую — в начале лета ни один нормальный астраханец арбуза не купит. Потому что это не «арбуз-скороспелка» (таковых не бывает), а настоящее химоружие — зеленая полосатая бомба незамедлительного действия!

И все же для кого-то самое большое наслаждение лета — огромный полосатый арбуз с мясистой красной мякотью и сахаристой «сосулькой».

Будьте осторожны: именно в первых арбузах и дынях накапливаются высокие дозы нитратов, которые могут привести к сильнейшим отравлениям.

Ядовитыми могут оказаться не только бахчевые культуры, но и картофель, свекла, морковь, капуста, огурцы, перец, помидоры, кабачки, виноград, всякая зелень — петрушка, укроп, шпинат. Причины тому — неправильное использование азотных удобрений, недостаток солнца, обилие влаги, не вовремя собранный урожай.

А когда речь идет о дынях и арбузах, частая причина — просто вредительство (по-другому не назовешь) тех, кто их выращивает (добросовестным бахчевикам приносим свои извинения). Чтобы дыня или арбуз быстрее созревали и набирали массу, иные умельцы впрыскивают ядовитые удобрения прямо в плод. По внешнему виду, вкусу, запаху вы ни за что не определите — доброкачественные это овощи и фрукты или нет.

## Процесс отравления

Сами по себе нитраты мало токсичны. Но, попадая в кишечник, они превращаются там под воздействием микрофлоры в нитриты, а затем преобразуются в нитрозамины — канцерогенные вещества, вызывающие отравления. В основе токсического действия лежит гипоксия («удушье») тканей из-за нехватки кислорода. Нитриты нарушают транспортную функцию крови, которая разносит кислород по организму, а также угнетают активность некоторых ферментных систем, участвующих в процессах тканевого дыхания. Наиболее чувствительны к гипоксии дети, пожилые и те, кто страдает заболеваниями сердечно-сосудистой, дыхательной, выделительной систем, дисбактериозом кишечника, анемией. Клинические признаки отравления проявляются уже через 1-1,5 часа после того, как съеден ядовитый продукт. Появляются тошнота, рвота, рези в желудке, общая слабость, понос, боль в области затылка, потемнение в глазах, синюшность губ, слизистых оболочек, ногтей, лица.


*Если у вас возникли подозрения, что ребенок отравился нитратами, — сделайте ему клизму и посадите на горшок: вреда от этого быть не может, а польза в случае отравления несомненная.*

Если есть подозрение, что отравились «нитратными» овощами или фруктами, немедленно выпейте бледно-розовый раствор марганцовки (1-2 стакана). Необходима и взвесь активированного угля: 2 столовые ложки на стакан воды. Сделайте все, чтобы желудок максимально очистился (не возбраняется вызвать рвоту, нажав пальцами на корень языка). Полезно и слабительное. И в случае тяжелого отравления — вызывайте «скорую».

## Советы бывалых

Покупайте овощи и фрукты лучше в «проверенных» магазинах или у хорошо знакомых продавцов на рынке, а не со «случайных» машин. Предприятия торговли худо-бедно, но контролируются санэпидемстанциями и другими службами, так что есть вероятность отбраковки ядовитых продуктов.

Отдавая должное овощам и фруктам, наворачивая за обе щеки любимые арбузы, дыни и зеленые салаты, знайте меру. Помните, что на каждый фрукт и овощ — свой сезон. Впрочем, сейчас, в середине августа, арбузов уже можно не слишком опасаться, а вот с дынями лучше еще подождать недельки две—три. А разрезанный арбуз, дыню храните только в холодильнике! И непременно съешьте в самое ближайшее время: если там много нитратов, болезнетворные микробы растут как на дрожжах.

Шпинат, салат, ревень лучше есть прямо «со своей грядки»: вы-то уж точно знаете, что не переборщили удобрения.

Существует мнение, что овощи можно «очистить» от нитратов, вымачивая в воде или проварив около часа. Нитратов в них действительно становится меньше, но и витамины, и другие полезные вещества вымываются. В результате овощи ничуть не становятся полезнее.

Витамины (особенно С, Е, А) — те вещества, которые предотвращают процесс превращения нитратов в нитриты. Есть научные данные, что любой свежеприготовленный сок (в частности, из свежей капусты) содержит различные соединения, которые «сдерживают» токсичность нитратов. Так что пейте больше свежих соков!

В разных частях овощей нитраты накапливаются неравномерно. К сожалению, не всегда можно сказать, где их больше. Тем не менее исследования показали, что в капусте наиболее ядовиты кочерыжки и верхние листья, в моркови — ее сердцевина, в арбузах и дынях — сладкая мякоть у кожуры примерно 5 см толщиной, в картофеле и кабачках — сама кожура, в свекле — хвостик и верхняя часть.

**Татьяна ГОСТЮХИНА**

# Диверсанты всех стран, соединяйтесь!

*Именно таким лозунгом можно охарактеризовать мероприятие, которое на днях завершилось в Эстонии*

**В**оенно-спортивная игра ЭРНА *Retk-98* проводилась уже пятый раз, и в этом году под свои знамена собрала команды из 11 стран. Если к присутствию ближайших соседей — латышей, литовцев, финнов, норвежцев, датчан, шведов — эстонцы уже привыкли, то появление диверсантов из Швейцарии, Великобритании, Италии и Китая говорит о популярности этой игры во всем мире. Правда, представители российской армии ни разу не участвовали в этих соревнованиях.

Присутствие такого количества гостей говорит о хорошей организации игры. Маловероятно, что гостям не дает покоя слава бойцов из отряда ЭРНА времен 1941 года, и, бродя по эстонским лесам, они будут выискивать на хуторах коммунистов, комсомольцев и колхозных активистов. Ведь славный путь этой эстонской диверсионной группы закончился тем, что ее разгромили отряды НКВД. Но солдату обязательно нужна какая-то идея, чтобы было за что воевать. И потому военные предпочитают называть это соревнование «гонкой патрулей».

**О**ткрыли мероприятие высшие чины эстонской армии. (Нужно отметить, что официальный язык учений — английский). После вдохновляющего слова министра обороны диверсантам представили вероятного противника. Это была экзотического вида группа с устрашающей боевой раскраской на лицах. После знакомства с «лесными братьями» по лицам диверсантов пробежала тень...

После окончания торжественного построения группы загрузились на три пограничных корабля и вышли в море, имитируя переход 1941 года из Финляндии к берегам Эстонии: именно по этому маршруту двигалась тогда ЭРНА.

К выходу из моря их уже ждали, каждой группе пришлось преодолеть пляж под плотным огнем противника. Берег окутался дымом и тучами песка, которые поднимали взрывы. Сильно досталось зрителям, неудачно расположившимся по ветру от места высадки. Многие зрители бежали быстрее диверсантов.

**Н**ужно отметить: имитация взрывов и пожаров была сделана не хуже, чем в Голливуде. И если бы не пожарная машина и толпы зрителей, то сцена боя пограничников с диверсантами разыгрывалась бы вполне реально. После короткого боя группы исчезали в лесу. Всего маршрут составлял около 100 километров, при этом на пути до финиша было необходимо преодолеть 16 контрольных точек, где надо было делать все, что должен уметь настоящий диверсант. На всех точках за ходом соревнований следили нейтральные представители ООН.

Судя по представленному составу (одни офицеры) и чересчур большому количеству сопровождающих высоких военных чинов, основным соперником эстонских команд была команда вооруженных сил Китая. Пешие китайские разведчики славились во все времена. Удача сопутствовала ими в лесах Эстонии, но не до конца. Победили хозяева. Это и справедливо: у них ведь такой опыт. А китайцы тотчас же подали апелляцию.

*«Молодежь Эстонии»*

*Индия*

# Долой символ рабства!

**Директива, изданная правящей в Индии партией Бхаратия джаната, запрещает делийским школьникам носить рубашки европейского покроя и галстуки, поскольку такая одежда является символом колониального рабства времен владычества англичан.**

Отныне девочки должны будут носить «шальвар-камиз» — традиционную удлиненную рубаху с шароварами, а мальчики — дополнять традиционные штаны рубахами с длинными рукавами.

Авторы нововведения аргументировали подобную акцию еще и тем, что такая одежда надежнее защищает детей от укусов комаров, предотвращая распространение опасных заболеваний, как, например, лихорадка денге и малярия. Однако один из высокопоставленных членов правительства публично снял с себя галстук и назвал его «символом рабства», добавив, что «не пристало носить британскую одежду после избавления от британских колонизаторов. И ничего хорошего в том, что детские шеи перетянуты удавками».

В настоящее время большинство индийских школьников носит европейскую одежду, поэтому реакция на подобный шаг правительства была весьма неоднозначной. Так, директор известной частной школы Дели заявил, что не считает обязательным придерживаться этой директивы. «Я не против «шальвар-камиз», но скажите мне, как я смогу втолковать родителям, почему их чадам вдруг понадобилась новая форма?» И напротив, глава одного из государственных учебных заведений уверен, что традиционная индийская система школьного воспитания, вплоть до одежды, много лучше европейской, и подобная акция — еще одно доказательство того, что ее преобладание в индийском обществе должно постоянно усиливаться.

*ИТАР-ТАСС*

*Германия*

# В немецком языке осталось 9 запятых

**С 1 августа в Германии официально вступили в силу новые правила правописания, которые будут теперь обязательны для школ и государственных учреждений.**

Реформа орфографии и пунктуации, по замыслу ее авторов, должна устранить многие противоречия, накопившиеся за долгий период развития немецкого языка. Более легким будет и процесс обучения: из 212 правил написания в будущем останутся обязательными только 112. Нынешние 52 правила, определяющие использование запятых, сокращены до 9-ти. Вступление в силу новых правописных норм распространяется также на соседей Германии — Австрию и Швейцарию, где литературный немецкий язык закреплен в качестве официального законодательно. Скорее всего, к реформе присоединится также Лихтенштейн.

Проведению коренной реформы правописания предшествовал долгий спор между сторонниками и противниками нововведений, который решался на всех юридических уровнях. Лишь недавно Федеральный конституционный суд дал «зеленый свет» введению новых правил. Решение о реформе письменного языка было принято еще в 1996 году в Вене на встрече министров культуры немецкоговорящих стран.

Теперь, как подчеркивают эксперты, остается не менее сложный этап: адаптация новых правил в широких слоях общества. Этот процесс не будет легким и должен завершиться лишь к 2003 году, подчеркнул руководитель комиссии по осуществлению реформы Герхард Аугст. Хотя, по мнению специалистов, сложности и противоречия прежних норм создавали все больше трудностей в изучении языка даже для самих немцев. Согласно недавнему исследованию, которое охватывало большую группу населения Германии в возрасте от 16 до 30 лет, каждый второй из его участников получил неудовлетворительную оценку за написанный диктант.

**Андрей ЧУПАХИН**

*Россия*

# Перекур в оздоровительном лагере

**Открыть «курилки» пришлось педагогическому составу оздоровительного детского лагеря «Синий Бор» в Челябинской области.**

Воспитатели решили легализовать курение, страшась необратимых последствий, грозивших лагерю в случае непринятия этого решения. Дело в том, что малолетние курильщики, будучи застигнутыми за своим недетским занятием, имели обыкновение распихивать тлеющие окурки куда ни попадя, что, конечно, было чревато пожарами. Впрочем, разрешив курить воспитанникам в открытую, взрослый персонал «Синего Бора» на этом не остановился. Недавно на территории лагеря был открыт табачный ларек. Это нововведение также объясняется гуманными резонами: дескать, раньше ребятам приходилось бегать за сигаретами в соседнее село, жители которого были настроены по отношению к приезжим детям не слишком дружелюбно.

*ЕНА*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1221 Нумар падпісаны ў друк 11/08/98 (18:25) Наклад — 19.670